# ПАГОНЯ №500

Чацвер 25 студзеня 2001 г. № 4 (500) Кошт 75 рублёў

## Гарадзенцы пра ПАГОНЮ

**Вы трымаеце ў руках 500-ы нумар ПАГОНІ. Нам ужо амаль дзевяць гадоў. Ці знайшла за гэты час наша газета свайго чытача? Каб адказаць на гэтае пытанне, мы звярнуліся да гарадзенцаў.**

**Уладзімір Панцялееў, скульптар:**

- Вы адныя з нямногіх, дзе можна пра нешта даведацца.



**Святлана Крук, міс Беларусі:**

- Нармальная, добрая газета. Я заўсёды яе чытаю, асабліва калі пра мяне пішаце. Больш за ўсё люблю апошнюю старонку з гараскопам.

**Вячаслаў Швед, дацэнт ГрДзУ:**

- Апошнім часам ПАГОНЯ стала значна цікавей, і я яе зноў набываю. Хачу, каб інфармацыя была не толькі мясцовая, правінцыйная, але і агульнарэспубліканская ды замежная.

**Мікалай Андрэеў, галоўны рэжысёр тэатра лялек:**

- Раней ПАГОНЯ мне больш падабалася, бо зараз у ёй шмат суб`ектывізму. Праяўляецца местачковасць, патрэбны больш шырокі ахоп падзеяў. А падабаецца таму, што гаворыце праўду. Удачы!

**Аляксандр Курловіч, трохкратны алімпійскі чэмпіён:**

- Ваша газета апазіцыйная, так? Я не люблю ні той, ні гэтай палітыкі. Ведаю толькі, што мы кепска жывем.

**Віктар Жалязняковіч, загадчык прэсцэнтру гарвыканкама:**

- Добра, што пяцьсот. Стараюся заўсёды чытаць. Што падабаецца, а што і не. Калі-нікалі з'яўляецца нейкая «оголтелость». Жадаю больш аб`ектыўнасці.



**Ян Яцкелевіч, інжынер:**

- Год, два таму чытаў ПАГОНЮ рэгулярна, а зараз вельмі рэдка. Адчуваецца, што рэдакцыя ў вас ужо не тая, слабенькая стала. «Народная Воля» значна мацнейшая ў гэтым сэнсе. Хацелася, каб ПАГОНЯ стала лідарам з той прэсы, што ёсць зараз у Беларусі.

**Андрэй Майсяёнак, прафесар, доктар біялагічных навук:**

- Я памятаю, калі ПАГОНІ было 100 - такі банкет быў! Газета ўжо стала шырокавядомай. Добра, што яе чытае моладзь - я ведаю шмат такіх. І самае галоўнае: ПАГОНЯ стала важным фактарам абуджэння нацыянальнай свядомасці.

**Рыгор Канстанцінавіч, пенсіянер:**

- З паўгода набываю вашу газету дзеля праграмы. Я якраз жыву ў доме, дзе месціцца ваша рэдакцыя. Палітыкай не цікаўлюся. Пагадзіцеся, што ваша газета звязаная з БНФ, а я БНФ не падтрымліваю.

**Супрацоўніца жаночай залы ў цырульні, што месціцца ў гатэлі «Нёман»:**

- Паклёпніца ваша газета. Не падабаецца мне яна...



**Аляксандр Матусевіч, працуе на «Магнітоле»:**

- Чытаю вашу газету ўжо гадоў пяць. Нармальная газета. Я да яе ўжо прывык. Падабаецца ў ёй тое, што апісваюцца падзеі, якія адбываюцца ў Гродне. Для 500-га нумара я б пажадаў ПАГОНІ лепшага афармлення, фотаздымкі ў вас невыразныя. Я сам фатограф і трохі разбіраюся ў гэтым.

**Апытвалі: Алеся Сідлярэвіч і Юлія Дарашкевіч**

# Інфармуем, ратуем і дапамагаем



*...Старадаўняй літоўскай Пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць!*
**М.Багдановіч, верш «Пагоня»**

Богам і лёсам наканавана так, каб я стаўся выдаўцом і рэдактарам без перабольшвання унікальнай газеты. Слова «стаўся» тут, магчыма, не самае адпаведнае, бо іншым разам мне здаецца, што ўсё папярэдняе дапагоняўскае жыццё было толькі прыступкамі і этапамі, якія паслядоўна і лагічна вялі мяне да гэтай місіі, да таго, каб у сераду, 25 сакавіка 1992 года, на 74-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі быў выпушчаны першы нумар ПАГОНІ. Больш таго. Мне падаецца, што не толькі я ішоў, як па компасу, да гэтай газеты, але і яна таксама настойліва шукала мяне праз пласты гадоў і кіламетры тэрыторыяў, дзеля таго, каб сустрэцца са мною тут, у найпрыгажэйшай Гродні.

Вы толькі ўявіце! Яшчэ ў 1920 годзе газета ПАГОНЯ выходзіла як орган Міністэрства Беларускіх Спраў урада Летувы ў Вільні і Коўне, куды мусіла эміграваць, пасля захопу Горадні ў красавіку 1919 года палякамі, Рада БНР. Вось якую першую папярэдніцу, блізкую нам духоўна і геаграфічна, мы маем! Пазней, у другую сусветную вайну, газета ПАГОНЯ, праўдападобна, у 1942-1944 гадах выходзіла ў Баранавічах. Напрыканцы 40-х гадоў, гэтым разам у Аўстрыі, выдаваўся аб'ёмны літаратурны грамадскі часопіс ПАГОНЯ... Сённяшняя ПАГОНЯ вось ужо амаль дзевяць гадоў годна працягвае лепшыя традыцыі нацыянальнай журналістыкі: паказваць свет вачыма беларусаў, для беларусаў і па-беларуску.

Сёння за нашымі плячыма - 500 нумароў, больш чым 500 тыдняў цяжкой, але ўдзячнай працы. Кожны з гэтых тыдняў стаўся суровым выпрабаваннем на нашую жыццяздольнасць. Дастаткова ўзгадаць, як Дзяржаўны камітэт па друку **(дакладней было б сказаць: супраць друку. - заўвага мая. М.М.)** спрабаваў зліквідаваць нас праз Ленінскі раённы суд горада Гродна. Пасля некалькіх дзён судовага пасяджэння суддзя А.Дзядзель па просьбе юрыста Дзяржкамдрука, які, мабыць, зразумеў усю юрыдычную нікчэмнасць сваіх прэтэнзіяў, абвесціў перапынак. Перапынак гэты доўжыцца дагэтуль...вось ужо пяць гадоў! Ужо нават суддзя Дзядзель з'ехаў у эміграцыю ў Бельгію, а суд над газетай ПАГОНЯ так і не скончыўся. Гэта не анекдот, гэта рэчаіснасць, у якой працуе ПАГОНЯ.

Аднак, калі мне часам становіцца сумна ад такой гнюснай рэчаіснасці, я заўсёды ўспамінаю той красавіцкі дзень 1997 года, калі ўлада...насіла мяне на руках. Размова ідзе пра гвалтоўнае высяленне ПАГОНІ з прэстыжнага будынка ў цэнтры горада, які мы займалі на законных падставах. Тады, пасля таго, як мы адмовіліся пакінуць памяшканне, брыгада міліцыянтаў, КГБістаў і грузчыкаў ЖЭСа павыкідала нашую мэблю, камп'ютары і паперы проста на вуліцу. Над рукі, адзін за адным, з будынка былі выведзеныя ўсе супрацоўнікі. Застаўшыся апошнім, я сеў на стул і заявіў, што нават пад прымусам адсюль не выйду. Праз паўгадзіны супрацьстаяння, мяне, па загаду намесніка начальніка Ленінскага РАУС М.Шмакава, пад пільным вокам відэакамеры, вынеслі разам са стулам два дужыя АМАПаўцы...

Усё цячэ, але нічога не змяняецца... Вось і ў мінулым годзе, напярэдадні выбараў у лукашэнкаўскую палатку, улада зноў вырашыла напужаць незалежны друк. За кароткі тэрмін Дзяржкамдрук абвесціў 10 афіцыйных папярэджанняў найбольш уплывовым з іх. Тры з гэтых папярэджанняў атрымала ПАГОНЯ. Потым цэлы месяц вялася падатковая праверка, у ходзе якой нас спрабавалі «абуць» на $5000. Дзякуй Богу, і гэтым разам мы адбіліся!..

Высілкі аматараў «трымаць і не пушчаць» нязменна заставаліся марнымі найперш з-за велізарнай падтрымкі нашых сяброў - нашых чытачоў! Менавіта яны сцвердзілі сваёй адданасцю да ПАГОНІ, здавалася б, банальны пастулат: лёс газеты залежыць не ад прыхамаці чыноўнікаў, а ад волі Яго Вялікасці Чытача. Мы заўсёды бачылі, што мы патрэбныя нашаму чытачу, і гэта надавала моцы і давала надзею на лепшае.

Сёння па старонках ПАГОНІ можна вывучаць гісторыю Прынямоння: нашым краі было і застаецца - даць аб'ектыўную інфармацыю пра ўсе падзеі, што адбываюцца ў рэгіёне і на Беларусі. Безумоўна, тое ж самае імкнуцца рабіць і іншыя сродкі масавай інфармацыі. Аднак мы заўсёды ганарымся тым, што пра многія падзеі ў жыцці нашых землякоў ПАГОНЯ паведамляла аператыўней і паўней. Да прыкладу, мы былі адзінай газетай на Беларусі, якая надрукавала знакаміты антыкарупцыйны даклад Сяргея Антончыка. Іншыя газеты, як вядома, выйшлі ў той дзень з белымі плямамі.

ПАГОНЯ не была б ПАГОНЯЙ, калі б яна была прэснай і бяззубай. Нават на агульным фоне далёка не баязлівай недзяржаўнай беларускай прэсы, нашыя публікацыі вылучаюцца смеласцю і бескампраміснасцю. Асабіста для мяне сімвалам такой дзёрзкай пагоняўскай праўды, стала наша карыкатура, дзе профіль адной асобы, вельмі падобнай да Аляксандра Лукашэнкі, намаляваны ў выглядзе кукіша, прыхарошанага пасмай доўгіх валасоў і вусамі. Гэтую карыкатуру потым перадрукавалі дзесяткі, у тым ліку найбуйнейшых, газетаў свету. Аднак першымі былі мы...

І яшчэ адна пагоняўская адметнасць. Пры ўсёй нашай зубатасці, мы не прайгралі ніводнага працэсу аб абароне гонару і годнасці, хаця героі многіх нашых публікацыяў імкнуліся аспрэчыць газету. У кожным выпадку, факты, што называецца, заўсёды пацвярджаліся... І за гэта вялікі дзякуй тым дзесяткам людзей, што працуюць на ПАГОНЮ, аддаюць ёй увесь свой інтэлект і душу. Спадзяюся, што ў вольнай дэмакратычнай Беларусі знойдзецца час і месца, каб годна адзначыць самаахвярную працу тых, хто спрычыніўся і штодня спрычыняецца да стварэння такога цуду, як ПАГОНЯ!

Я веру, што гэты цуд - наша агульная газета ПАГОНЯ - заўсёды будзе жыць тут, на Беларусі. І справа не ў тым, што мае жаданне мае вялікія агульнапрызнаваемыя гарантыі накшталт грошай альбо нейкіх іншых матэрыяльных рэсурсаў. Даўно вядома - калі адлятаюць мішура і шалупінне, калі скідваюцца ілжэкуміры і разбураюцца ілжэдогмы, то застаецца тое вечнае, што ніколі не адыйдзе ў нябыт. Гэта - зямля, якая нас парадзіла, і мы на гэтай зямлі паўтораныя ў дзецях, унуках і праўнуках. Гэта - наша Бацькаўшчына. Гэта - Беларусь.

Мы шмат страцілі, шмат у чым спазніліся. Напарадзе - вялікая і цяжкая праца, мэтай якой ёсць вяртанне ва ўлонне еўрапейскіх народаў, як роўных сярод роўных. І прыкладам тут павінен стаць даўні звычай нашых продкаў - няўрымслівая Пагоня. Усе разам, талакою, мы ў стане дагнаць там, дзе спазніліся, здабыць тое, што страцілі. Спадзяюся, што наша ПАГОНЯ будзе і надалей дарэчы ў гэтай святой справе.

**Мікола Маркевіч, рэдактар**

**На здымку: рэдакцыя газеты ПАГОНЯ – (злева направа) Сяргей Сноп, Павал Мажэйка, Юлія Дарашкевіч, Мікола Маркевіч, Франц Аўдзей, Алена Сіневіч, Юля Коцкая, Аляксей Салей, Святлана Гібульская, Алеся Сідлярэвіч**

# Прафесар Астроўскі апярэдзіў доктара Шчыгельскага на 5 гадоў

**Публікацыя ў газеце «Наша свабода» прафесійнага заключэння псіхіятра Дзмітрыя Шчыгельскага, дзе аўтар паставіў Аляксандру Лукашэнку дыягназ «мазаічная псіхапатыя», мела рэзананс у грамадстве. Аднак не кожны ведае, што ПАГОНЯ яшчэ ў 1996 годзе засумнявалася ў здароўі тады яшчэ прэзідэнта і паставіла яму дыягназ - псіхічнае захворванне. Аўтар дыягназу - прафесар Гарадзенскага медуніверсітэта Алесь Астроўскі. Тады гэты артыкул не выклікаў амаль ніякай рэакцыі. Усе палічылі яго несвоечасовым. Сёння прафесар Астроўскі параўноўвае два дыягназы.**

***- Спадар прафесар, ці ёсць якія-небудзь прынцыповыя разыходжанні ў дыягназе, вынесеным Вамі Лукашэнку чатыры гады таму і нядаўняй публікацыяй медычнага заключэння Дзмітрыя Шчыгельскага?***

- Калі браць стратэгічныя моманты, дык мой погляд на псіхічны стан Аляксандра Лукашэнкі аказаўся тым самым - я патрапіў у кропку. Адзінае, што я карыстаўся дзевятай класіфікацыяй хваробаў чалавека, а Шчыгельскі - дзесятай. Таму ёсць неістотныя адрозненні. Псіхапатыя, паранойя - усё гэта розныя назвы фактычна аднаго і таго ж... Вельмі важна, што цалкам супалі нашыя прагнозы ў дачыненні да сацыяльна-палітычных наступстваў, нават з называннем асобаў Гітлера і Сталіна.

Апошнім сказам у маім артыкуле 1996 года было: «Псіхапатыя Гітлера і Сталіна ў XX стагоддзі прывяла да знішчэння больш як 100 мільёнаў чалавек, да чаго ж тады псіхапатыя кіруючых асобаў можа прывесці ў XXI стагоддзі».

***- Як Вы наогул ацэньваеце публікацыю Дзмітрыя Шчыгельскага?***

- Мне вельмі прыемна, што з`явіўся падобнага кшталту дакумент. Бо калі я даваў сваё заключэнне пяць гадоў таму, я рабіў гэта са злосці на псіхіятраў, якія не агалошваюць як спецыялісты тое, што ім было відавочна напэўна. Калі чалавек не зусім здаровай псіхікі, па сваіх паводзінах скандаліст, знаходзіцца на дзяржаўнай пасадзе, яны павінны былі выказаць свой пратэст і заявіць пра гэта. Сам факт, што афармленае за подпісам прафесіянала заключэнне з`явілася ў газеце - уражвае.

***- На Вашу думку, як павінна рэагаваць на такія публікацыі грамадства і адпаведныя структуры?***

- У любым нармальным грамадстве была б праведзена незалежная, быць можа, міжнародная экспертыза праверкі факта. Наколькі чалавек, якому пастаўлены такі дыягназ, можа кіраваць краінай, а тым больш удзельнічаць у будучых прэзідэнцкіх выбарах. А паколькі наша краіна адрозніваецца ад нармальных краінаў, дыягназам Лукашэнкі больш цікавіцца пракуратура.



**Доктар навук, прафесар Алесь Астроўскі паставіў Лукашэнку дыягназ яшчэ ў 1996-м!**

***- Я Вас правільна зразумеў: кожны кандыдат у прэзідэнты Беларусі павінен прайсці незалежную псіхіятрычную экспертызу?***

- Так, безумоўна, грамадства павінна прызадумацца. Мае быць уведзена больш шырокая экспертыза стану здароўя будучых кандыдатаў у прэзідэнты. Гэта павінна рабіць незалежная камісія. І быць узаконена на міжнародным узроўні. Каб гэтыя сем гадоў кіраваў іншы чалавек, дык нашае жыццё не было б такім гаротным.

**Гутарыў
Павал Мажэйка**

# Першая шыльда з рыцарам



**Гэта была газета-экспромт. Усё рабілася ў апошні момант. Зрэшты, газета ёсць газета. Размовы, будаванне паветраных замкаў - усё гэта было задоўга да 25 сакавіка. Але ў газеце павінны быць больш-менш свежыя навіны. Напісаць усё, падрыхтаваць нумар за месяц-два было немагчыма.**

**Хаця сам я прапанаваў для першага нумара «тавар» з пэўным тэрмінам захавання. «Лютаўска-сакавіцкія зацемкі», напрыклад. А таксама апавяданне «25 сакавіка» - на апошнюю старонку, пад нейкім псеўданімам. Апавяданне гэтае потым апынулася ў маёй кнізе «Цэнзарскія нажніцы».**

**Што яшчэ было больш-менш загадзя падрыхтавана, дык гэта газетная шыльда. Зрабіў яе Юры Кубараў, які працаваў тады ў друкарні. На пасе - светла-заштрыхавана-светлым - быў змешчаны герб з конным рыцарам на шчыце - наш дзяржаўны! і сама назва газеты - ПАГОНЯ.**

**Само сабою, што пас, да якога, як да дошкі, былі прымацаваныя герб і назва, уяўляўся сцягам. Так і было б, каб у друкарні выкарысталі чырвоную фарбу. «І сьцяг наш бел-чырвона-белы!» - як напісаў калісьці паэт. Аднак друкары залілі ў сваю «гаргару» нейкую фіялетавую фарбу альбо бэзавую.**

**«Жыве Беларусь!» - аптымістычна напісалі мы ўверсе, вось яна і жыве... Цяперашняя шыльда мае замежнае паходжанне. Яе ў Вільні зрабіў Сяргей Харэўскі, за што яму - дзякуй. Праўда, рыцар з шыльды апынуўся ў зачараваным коле. Але захаваўся дагэтуль.**

**Сяргей Астраўцоў,
рэдактар газеты ПАГОНЯ ў 1992-1993 гадах**

**<u>На здымку</u>: бацькі-заснавальнікі-аўтары першага нумара ПАГОНІ ў Гарадзенскай друкарні толькі-толькі забралі з друкарскай машыны сігнальны нумар сваёй газеты. 25 сакавіка 1992 года. Злева направа - Міхаіл Карневіч, Мікола Маркевіч, Сяргей Астраўцоў**

**Фота Ул. Уладасевіча**

# Заставайцеся на праўдзівых пазіцыях!

**Дарагія сябры, усе, хто мае адносіны да выдання газеты ПАГОНЯ, яе чытачы!**

У 1992 годзе Гарадзенскае аддзяленне культурна-асветніцкага фонду «Бацькаўшчына» распачало выдаваць у Гродне адзіную на той час у вобласці незалежную беларускамоўную газету ПАГОНЯ. Чытачы атрымалі магчымасць мець аб'ектыўную інфармацыю пра грамадска-палітычнае жыццё ў Беларусі, Гарадзенскай вобласці і памежных рэгіёнах Літвы і Польшчы.

Гэта надзвычай важна асабліва сёння пры захаванай дзяржавай манаполіі на СМІ. ПАГОНЯ неаднаразова падвяргалася неабгрунтаваным пераследам з боку «вертыкалі». І тым не менш, газета жыве, пра што сведчыць яе 500 нумар.

Канкурэнцыю з дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі цяпер могуць вытрымаць толькі тыя незалежныя газеты, якія маюць досвед працы ў постсавецкіх умовах, добрыя кадры рэпарцёраў, аўтарытэт у чытачоў.

Газета ПАГОНЯ была заснаваная ў 1920 годзе. Яе выданне было адноўлена ў 1992 годзе. Гэты факт сведчыць пра тое, што сапраўдныя дэмакратычныя выданні маюць вялікую жыццёвую сілу. Іх жывяць патрыятызм, адданасць роднаму краю, вера ў новую незалежную і еўрапейскую Беларусь.

ПАГОНЯ заявіла пра сябе на ўвесь голас. Яе ведае чытач, бо знаходзіць на яе старонках праўдзівую грамадска-палітычную, эканамічную і сацыяльную інфармацыю.

Так трымаць і надалей!

**Сямён Домаш,
ад імя кіраўнікоў 33 грамадскіх арганізацыяў Гарадзеншчыны**

# Статкевіч «здымае маску»

**Лідара БСДП(НГ) Мікалая Статкевіча болей чым самога ПП РБ хвалююць давыбары ў лукашэнкаўскую «палатку».**

Калі падчас асноўных выбараў, паводле партыйных рашэнняў, удзельнічаць у іх маглі асобныя шэраговыя сябры БСДП(НГ), да якіх сябе залічыла і партыйнае кіраўніцтва на чале з Мікалаем Статкевічам, без партыйнай падтрымкі, то на паўторныя выбары прапанавана вылучаць кандыдатаў у дэпутаты ад партыі.

Старшыня БСДП(НГ) мае намер правесці гэтае рашэнне і зацвердзіць кандыдатаў, у тым ліку і сябе, на пасяджэнні ЦК, якое адбудзецца 28 студзеня - такім чынам вырашана вылучыць пяць кандыдатаў.

Рашучасць, з якой Мікалай Статкевіч ідзе на паўторныя выбары, можа мець самыя добрыя вынікі для партыі. Ігнараванне рашэнняў з'езда самім старшынём выклікаў партыйны крызіс, стварэнне фракцыі. Магчымасць прыняцця такога рашэння на ЦК БСДП(НГ) малаверагодная, але прыняцце гэтага дакумента можа пашырыць партыйны раскол, паколькі такія захады нічым не невытлумачальныя. Аднак, людзі з блізкага атачэння Статкевіча ў прыватных гутарках сцвярджаюць, што нягледзячы на афіцыйныя заявы старшыні БСДП(НГ) наконт **няўдзелу** ў прэзідэнцкіх выбарах, ён усё роўна будзе выстаўляць сваю кандыдатуру. І гэтае сцвярджэнне мае пад сабою падставу, паколькі намеснік старшыні БСДП(НГ) Уладзімір Нісцюк мае ў гэтым плане досвед, бо працаваў у час першай выбарчай прэзідэнцкай кампаніі ў выбарчым штабе Аляксандра Лукашэнкі.

# Вертыкаль рыхтуецца да прэзідэнцкіх выбараў...

**...і дакладна ведае дату іх правядзення.**

У Мастоўскім раёне мясцовыя ўлады распачалі шэраг семінараў па навучанні намеснікаў кіраўнікоў арганізацыяў па выхаваўчай рабоце. Разам з імі на мерапрыемствы запрашаюцца старшыні сельсаветаў.

На першым семінары, што адбыўся 19 студзеня ў калгасе «Новы шлях», яго ўдзельнікі атрымалі план мерапрыемстваў на год, дзе запісана, што асноўныя перадвыбарчыя мерапрыемствы павінны адбыцца ў жнівні-верасні бягучага года.

**Міхась Карпейчык**

# Лёс Беларусі вызначыць моладзь

**Тэма выбараў прэзідэнта Беларусі абмяркоўвалася на сустрэчы актыву грамадскіх і партыйных арганізацый Віцебшчыны з адным з прэтэндэнтаў на ўдзел у прэзідэнцкай кампаніі, каардынатарам грамадскага аб'яднання «Рэгіянальная Беларусь» Сямёнам Домашам.**

Сустрэча прайшла ў віцебскім кінатэатры «Мір» вечарам 20 студзеня. Ва ўступным слове Сямён Домаш расказаў пра арганізацыю «Рэгіянальная Беларусь», прадстаўнікі якой маюць некалькі галасоў у Каардынацыйнай радзе дэмакратычных сілаў (КРДС). У сваю чаргу, КРДС прэтэндуе на ролю цэнтра кааліцыі апазіцыйных сілаў Беларусі. Гаворачы пра прыняты КРДС механізм вызначэння адзінага кандыдата ў прэзідэнты, Домаш адзначыў, што паміж ім, Міхаілам Чыгірам і Уладзімірам Ганчарыкам дасягнута дамоўленасць не перашкаджаць адзін аднаму і рабіць усё магчымае, каб грамадскасць даведалася пра іх як палітыкаў. У заключэнне Сямён Домаш выказаў жаданне пачуць меркаванне ўдзельнікаў сустрэчы наконт таго, што можа больш паўплываць на зыход выбараў: «нарошчванне мускулаў» палітычных сілаў або павышэнне ролі грамадскіх арганізацыяў.

Аднак размовы на гэтую тэму не атрымалася. Сустрэча праходзіла ў рэжыме адказаў на вусныя пытанні і цыдулкі. Адны пыталіся, ці будуць ім калісьці кампенсаваныя сумы штрафаў за ўдзел у вулічных акцыях, іншых цікавіла стаўленне Домаша да цяперашняй і ранейшай дзяржаўнай сімволікі, трэціх - да праблемы люстрацыяў і асабіста да Аляксандра Лукашэнкі.

**Леанід Сіманаў**

# ПАГОНІ – 500! Але твар – малады і смелы!!

**Пагоні - 500! Добрая нагода звярнуцца за падсумаваннем вынікаў работы і зменаў за гэтыя гады да тых, хто пачынаў нашу газету, а цяпер займаецца нейкай сваёй справай, да нашых ветэранаў.**

**Вітаўт Руднік, Цэнтр «Трэці сектар»:**

- Для мяне ПАГОНЯ была першай сапраўднай школай журналістыкі, дзе я атрымаў першыя веды аб працы ў газеце. ПАГОНЯ была і маёй першай школай публічнай дзейнасці, тут адбыліся мае першыя знаёмствы з уплывовымі людзьмі, ад якіх залежыць прынятые самых важных рашэнняў.

У тыя часы, калі я працаваў у газеце, было, з аднаго боку, лягчэй, бо не было такого ўціску адусюль, які адчуваецца цяпер не толькі на незалежныя сродкі масавай інфармацыі, але і на дзейнасць няўрадавых арганізацыяў ды ініцыятываў. З другога боку, было цяжэй, бо напачатку не хапала сродкаў, прафесіяналізму.

Лічу, што газета сёння захавала сваё аблічча. Хачу пажадаць, каб яно захавалася і надалей. Газета выходзіць амаль дзевяць гадоў, жадаю, каб ейнае адметнае аблічча захавалася яшчэ разоў 50 па дзевяць, як і душы і целы тых, хто там зараз працуе.

**Георг Астроўскі, гарадзенскае радыё:**

- Я пажадаў бы газеце не заставацца правінцыйнай і выконваць сваё першаснае прызначэнне: некалі яна распаўсюджвалася на 13 краінаў свету, не кажучы ўжо пра Беласток. Для мяне гэта перш за ўсё культурна-асветніцкая газета, няхай яна і займаецца культурна-асветніцкай дзейнасцю. Прызначэнне ПАГОНІ - быць слупом беларускасці для ўсіх людзей.




**Міша Карневіч, намеснік рэдактара газеты «Біржа інфармацыі»:**

- Я быў сярод тых, хто пачынаў першы нумар ПАГОНІ. Мы рабілі яго ў маім колішнім працоўным кабінеце. Гэта была такая эйфарыя - зрабіць сваю газету, тады ж не было ніякай альтэрнатывы ў прэсе... Былі іншыя часы. На тыя часы магчыма было працаваць, тады і рэдакцыя з`явілася, і штат павялічыўся. Аднак, таксама нялёгка было - людзі прыходзілі без досведу, потым у нас жа ў ПАГОНІ і вучыліся, паступалі далей і звязвалі сваё жыццё з журналістыкай. ПАГОНЯ ў многім змянілася, як змяніліся і часы, хаця яе сутнасць як беларускай газеты такой і засталася. Можа, газета стала больш смелай, катэгарычнай. Але яна пазнаецца, публікацыі, асабліва апошнім часам, маюць сваё адметнае аблічча.

Я вельмі рады, што яна ёсць. Я думаю, наколькі гэта цяжка - быць беларускай газетай сёння, але яна ёсць.

Хацеў бы пажадаць, каб ПАГОНЯ станавілася больш прафесійнай. Дай Бог, каб яна існавала. У яе ёсць свае чытачы, якія чакаюць толькі яе, і дай Бог, каб іх чаканне нічым не парушылася.

**Дзмітрый Кісель, Беластоцкае Радыё Рацыя, карэспандэнт:**

- Калі я працаваў у ПАГОНІ, то хацеў зрабіць шмат для гэтай газеты, але атрымалася не ўсё. Ну, што я магу сказаць? Зараз у змесце ПАГОНІ я не бачу нейкай адметнасці ад іншых гарадзенскіх газетаў, адкрываеш - і што першая старонка, што восьмая - адно і тое ж. Раней працавалі нармальныя людзі - цікавей была і газета, а цяпер амаль няма чаго чытаць.

Але пажадаць з нагоды 500-га нумара хацеў бы самага лепшага.

**Уладзімір Хільмановіч (ён жа Хельмут Каменскі, ён жа Ладзік Майніч):**

- ПАГОНЯ набыла больш маладое аўтарскае аблічча - і гэта добра. Зычу газеце заўсёды заставацца на кані беларушчыны. Пры тым падвышаць культуру мовы і вастрыць дзіды-словы.

**Падрыхтавала Ганна Макоўская**

# Па лабірынту секс-рабства

**За 2000 гадоў гарадзенская паліцыя нораваў выявіла каля 50 жанчын, якіх пераправілі прастытуткамі за мяжу. Выяўлена некалькі сутэнёрскіх груповак. Над адной з іх гэтымі днямі ішоў суд. А Жанчыны ж усё роўна шукаюць лепшай долі за мяжою, а аказваюцца ў бардэлях. Вось гісторыя 19-гадовай Вольгі з Гродна.**

Вольга - адзіная дачка ў сям`і. Бацькі - педагогі па адукацыі, але за работай і гарэлкай лёсам дзяўчыны асабліва не цікавіліся. Здарылася так, што разам з атрыманнем школьнага дыплома Вольга нарадзіла дачку і аформіла шлюб са сваім хлопцам. Далей жыццё станавілася ўсё меней вясёлкавым. Патрэбныя былі грошы, а малады муж не думаў пра тое, як пракарміць сям`ю. Пасля школы без спецыяльнасці сталую работу знайсці немагчыма. Убачыўшы ў газеце аб`яву пра работу ў Германіі афіцыянткай, дзяўчына вырашыла рызыкнуць.

Праз пару тыдняў Вольга разам з некалькімі жанчынамі ехала ў Германію. На машыне іх суправаджалі два мужчыны. На мяжы яны папрасілі у пасажырак пашпарты, нібыта каб паставіць штампы. Адразу пасля перасячэння мяжы мужчыны прымусілі іх перасесці ў іншую машыну, дзе сядзелі два туркі. Пашпарты не аддалі. Вольгу разам з астатнімі жанчынамі адвезлі ў адзін з гарадкоў на захадзе Польшчы.

- Нас прывезлі ў цесную кватэрку, дзе ўжо былі шасцёра жанчын з розных краінаў. Адна аказалася з Беларусі. Яна і расказала, якую работу на самой справе я павінна буду выконваць - быць прастытуткай, - гаворыць Вольга. На мае спробы адмовіцца ад такой работы мяне збілі, згвалтавалі і ўсё гэта запісалі на відэа. Мне суткі не давалі есці і піць. Сказалі, што відэакасету адашлюць дадому, калі я не буду рабіць тое, што загадаюць. Яны маглі забіць мяне - і ніхто б ніколі не знайшоў маё цела... Я скарылася... Працавала на аўтастаянках, дарогах, ля прыбіральняў. Грошы я аддавала «гаспадарам», дакументаў не мела. Каб я не змагла падмануць «гаспадароў» на грошах, мне выдавалі 30 прэзерватываў, усе з якіх - скарыстаныя і не - я павінна была вяртаць. Колькі скарыстаных - столькі і грошай. Мне пашчасціла - у адзін з дзён я збегла. Мяне дэпартавалі дадому без права выезду на пяць гадоў.

Па звестках, што агучыла арганізацыя «Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын» падчас прэзентацыі праекта «Арыядна», якая адбылася ў мінулую пятніцу ў цэнтры «Трэці сэктар», жанчыны-ахвяры секс-гандлю працуюць, як машыны. Іх жыццё - гэта абслугоўванне кліентаў з 9 да 24 гадзін. З сабою «на работу» выдаюць толькі бутэльку вады і прэзерватывы. Жанчына павінна абслужыць 28-30 кліентаў у дзень, беручы з кожнага 50 злотых.

Крымінальныя групоўкі, самая страшная з якіх - балгарскія туркі - могуць прадаваць жанчын з аўкцыёна за 1000 даляраў кожную. Варшаўскі Фонд супраць гандлю жанчынамі La Strada падае звесткі, што такі аўкцыён, на якім былі 80 сутэнёраў, прайшоў гэтым летам у Варшаве.

Гродна выступае транзітным цэнтрам у гэтым крымінальным бізнесе. Паводле дадзеных аддзела нораваў гарадзенскай міліцыі, на гэтым тыдні прайшоў другі суд над адной групоўкай сутэнёраў. Яны адправілі ў Польшчу 12 гарадзенак. У цэлым выяўлена 50 жанчын-ахвяр секс-гандлю. Вываз яшчэ 52-х прадухілены. І гэта - толькі вяршыня айсберга, бо на справе раскрыць групоўку сутэнёраў вельмі складана. Усё адбываецца законна - жанчыны афармляюць пашпарт, ставяць турыстычную візу і выязджаюць.

Як не стаць замест афіцыянтак ці зборшчыцаў клубніцаў прастытуткамі? Вось асноўныя пункты, на якія неабходна звярнуць увагу:

- нікому ні пад якой маркай не аддавай пашпарт;
- ты павінна мець працоўную, а не якуюсьці іншую візу;
- ведай тэлефон, месцазнаходжанне амбасады тваёй краіны;
- фірма-пасярэднік павінна мець ліцэнзію ад Міністэрства па міграцыі Рэспублікі Беларусь на дзейнасць, звязаную з працаўладкаваннем за мяжой.

Тэлефон даверу фонда La Strada: (022) 628-99-99 (Варшава).

З першага студзеня ў Менску працуе тэлефон даверу для тых, хто трапіў ці баіцца патрапіць у лапы да секс-вербоўшчыкаў: (8-0172) 45-31-67.

**Алена Сіневіч**

# СНІД пагражае вёсцы

**Мінулагодні выбух СНІДу ў Лідзе быў выкліканы хутчэй за ўсё наркотыкамі, завезенымі з-за межаў Беларусі. Аналагічныя лідскаму падтыпы віруса імунадэфіцыту выяўлены ў Адэсе і Калінінградзе. Смяротная хвароба прабіраецца ўглыб Беларусі. Усё болей ВІЧ-інфікаваных з`яўляецца ў дробных населеных пунктах. Такія высновы прагучалі на справаздачнай нарадзе Гарадзенскага абласнога цэнтра прафілактыкі СНІДу, якая адбылася на мінулым тыдні.**

У параўнанні са студзенем мінулага года, колькасць ВІЧ-інфікаваных павялічылася ў Гарадзенскай вобласці на 85 чалавек (1 студзеня 2000 года - 30 ВІЧ-інфікаваных, 1 студзеня 2001 года - 115). Звязана гэта перш за ўсё з выбухам хваробы ў Лідзе, дзе за 2000 год зарэгістравана 78 новых ВІЧ-інфікаваных (увогуле - 91 хворы). Сярод шасці абласцей Беларусі і горада Менска па колькасці захворванняў на СНІД Гарадзенская вобласць займае пятае месца. Найменей інфікаваных у Віцебскай (72) і Менскай (78) абласцях. Увогуле па краіне зафіксавана 3 278 выпадкаў захворванняў на СНІД.

Найбольш небяспечным у распаўсюджванні хваробы з`яўляецца тое, што ў эпідпрацэс ўцягваюцца вёсачкі і невялікія гарады. У Лідскім раёне за 2000 год зафіксавана тры выпадкі захворвання, па аднаму ВІЧ-інфікаванаму - у Слоніме, Мастах, Наваградку, Воранаўскім раёне, два - у Ваўкавыску. Павялічце гэтыя лічбы яшчэ ў 10-12 разоў.

Агульнавядома, што СНІД - гэта хвароба маладых (68,3 працэнта ВІЧ-інфікаваных знаходзяцца ва ўзросце 20-29 гадоў). У Гарадзенскай вобласці зафіксавана толькі два выпадкі хворых ва ўзросце 40-44 гадоў. Гэта жыхары горада Ліды, якія ўжываюць наркотыкі.

Часта здараецца так, што ад мужа-наркамана атрымлівае хваробу цяжарная жонка. У адным з трох выпадкаў у ВІЧ-інфікаванай жанчыны нараджаецца хворае дзіця. Так, у 2000 годзе выяўлены СНІД у маленькага дзіцяці ў Гродне. Зараз яму два гады, за ім вядзецца сталы нагляд лекараў і, адпаведна словам галоўнага доктара Гарадзенскага цэнтра прафілактыкі СНІДу Яніны Шарэнды, дзіця адчувае сябе добра. Зніжае магчымасць перадачы хваробы ад маці дзіцяці выкарыстанне спецыяльных прэпаратаў падчас цяжарнасці ды адмова ад кармлення немаўляці грудзьмі.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Вы не паверыце, але злачынстваў стала менш

**2000 год адзначыўся амаль паўтысячным скарачэннем на Гарадзеншчыне злачынстваў. «Гэта самае вялікае скарачэнне па ўсёй Беларусі», - адзначыў у аўторак на прэсавай канферэнцыі Анатоль Белашэўскі, начальнік УУС Гарадзенскага аблвыканкама.**

Канферэнцыя вызначалася прысутнасцю кіраўнікоў амаль усіх службаў міліцыі Гарадзеншчыны і значнай колькасцю прадстаўнікоў прэсы. Патрапіць, праўда, здолелі не ўсе. Анатоль Белашэўскі асабіста «пакараў» карэспандэнтку «БДГ» па Гродна Ніну Палуцкую і загадаў «оную не пушчать». Прычына, як адзначыў начальнік УУС, - у газетнай публікацыі, дзе журналістка быццам бы абвінавáціла гарадзенскую міліцыю ў садзеянні злачынцам.

10892 - на гэтым паказчыку спыніўся рост злачынстваў на Гарадзеншчыне ў мінулым годзе. Да прыкладу, у Віцебскай вобласці ў 2000 годзе зафіксавана 19385 злачынстваў, а ў Гомельскай - і гэтага болей - 25003.

Нягледзячы на абвешчанае скарачэнне і відавочна лепшыя лічбы ў параўнанні з астатняй Беларуссю, амаль 40 працэнтаў злачынстваў на Гарадзеншчыне - гэта цяжкія злачынствы.

На мінулы год на Гарадзеншчыне было зафіксавана 106 забойстваў. Прычым, па раскрываемасці забойстваў наш рэгіён толькі на пятым месцы сярод іншых абласцей краіны. Не раскрытымі застаюцца некалькі гучных забойстваў маладых дзяўчат, якія былі зафіксаваныя ў мінулым годзе.

А вось па раскрыцці згвалтаванняў, рабункаў, разбояў, злачынстваў мінулых гадоў Гарадзеншчына займае лідзіруючыя пазіцыі ў Беларусі.

Характэрнай адметнасцю часу становіцца рост эканамічных злачынстваў, асабліва цяжкіх. Апаратыўна рэагавалі супрацоўнікі гарадзенскай міліцыі і на «дэкрэтныя» змены ў краіне. 1192 адміністрацыйныя пратаколы былі складзеныя ў мінулым годзе на «валютчыкаў».

Амаль не змяніліся прапорцыі падлеткавай злачыннасці. 876 злачынстваў здзейснена на Гарадзеншчыне непаўналетнімі, пры гэтым каля 70 працэнтаў ад гэтай лічбы - групавыя.

Зафіксавана 480 злачынстваў, звязаных з вытворчасцю і продажам наркотыкаў. Гэта на 119 выпадкаў больш, чым у 1999 годзе.

187 міліцыянтаў на Гарадзеншчыне памяняліся месцамі са сваімі апанентамі. За парушэнне законнасці, п'янства яны былі пакараныя ў дысцыплінарным парадку, а 12 з іх асуджаныя за злачынствы.

Надыход новага стагоддзя прынес супрацоўнікам міліцыі не толькі падвядзенне вынікаў, новыя кодэксы, але і скарачэнне кадраў. Па ўсёй краіне трэба будзе скараціць каля пяці тысяч чалавек. Аднак гэта не адзначае, што на вуліцах стане менш людзей у плямістай форме. Скарачэнне закране больш за ўсё службу «Аховы», дзе тры тысячы вартаўнікоў маюць статус міліцыянтаў і тылавое забеспячэнне.

**Павал Мажэйка**

# Бандыты згаладнелі

**У вёсцы Руда Яворская Дзятлаўскага раёна абрабавалі прадуктовую краму. Бралі не касу, і нават не гарэлку. Зладзеі пакваліліся на ежу.**

За пяць хвілінаў да дзевяці вечара, 19 студзеня, двое невядомых у шапачках на тварах уварваліся ў краму. Пагражаючы абрэзам, рабаўнікі ўзялі... тры кілаграмы макаронаў і два кілаграмы селядца.

**Юлія Дарашкевіч**




**26 студзеня** - кароткачасовыя ападкі, завіруха, галалёдзіца. Вецер паўднёвы 6-11 м/с, парывы - да 14 м/с. Тэмпература паветра ўначы -1...-6, удзень -4...+1. **27 студзеня** на большай частцы Гарадзеншчыны - мокры снег, завіруха, галалёдзіца. Вецер паўночны 6-11 м/с, парывы - да 14 м/с. Тэмпература паветра ўначы -4...+1, удзень -2...+3.

# Бюджэт-2001: на спецслужбы больш, чым на адукацыю

**1 студзеня 2001 года ўвайшоў у сілу Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2001 год». У адпаведнасці з артыкулам 1 Закона, даходы рэспубліканскага бюджэту на бягучы год зацверджаныя на суму 3 223 171 615,0 тысяч рублёў, выдаткі на суму 3 471 000 778,0 тысяч рублёў; усталяваны памер дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту на 2001 год на суму 247 829 163,0 тысячы рублёў.**

## 1. Пра асаблівасці Закона аб бюджэце-2001

Упершыню за апошнія тры гады асноўны фінансавы план дзяржавы быў прыняты своечасова. Прэзідэнт падпісаў Закон аб бюджэце ўжо 11 лістапада 2000 года. Згодна з артыкуламі 32 і 33 Закона, памер прыросту ўнутранага дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь не можа перасягаць 3,0 працэнта ад валавога ўнутранага прадукта, а ліміт знешняга дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь на канец 2001 года не можа быць больш як два мільярды даляраў ЗША. Пакрыццё дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту будзе ажыццяўляцца праз крэдыты Нацыянальнага банка Беларусі, цераз чыстыя крэдыты міжнародных фінансавых арганізацыяў і крэдыты ўрадаў замежных дзяржаваў; праз крыніцы, атрымліваемыя ад камерцыйных банкаў ды іншых юрыдычных фізічных асобаў.

Закон усталёўвае шэсць мэтавых бюджэтных фондаў: рэспубліканскі фонд падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі, харчавання і аграрнай навукі, дзяржаўны фонд садзеяння занятасці, рэспубліканскі дарожны фонд, рэспубліканскі фонд аховы прыроды, гарантыйны фонд і рэспубліканскі фонд «Энергазберажэнне». У адпаведнасці з часткай 2 артыкула 2 Закона, у рэспубліканскі бюджэт-2001 уключаныя бюджэты свабодных эканамічных зонаў.

## 2. Даходы бюджэту-2001 у кантэксце даходаў бюджэту 1996, 1999 і 2000 гадоў

Згодна з Законам аб бюджэце-2001, даходы рэспубліканскага бюджэту плануюцца на суму 3 223 171 615,0 тысяч рублёў (ці 2 148 781 000 даляраў ЗША). Структура даходаў-2001 прыблізна такая ж, як і структура даходаў у 1996, 1999 і 2000 гадах, аднак параўнальна розныя лічбы **(гл. табліцу N 1)**.

Адпаведна табліцы N1, даходы рэспубліканскага бюджэту, у параўнанні з 2000 годам, павінны падвысіцца на 400 мільёнаў даляраў ЗША. Аднак у дачыненні да даходаў бюджэту-1996, даходы бюджэту-2001 на 900 мільёнаў даляраў ЗША меней...

У 2001 годзе на 50 працэнтаў у дачыненні да 2001 года павінны падвысіцца паступленні ад падаткаў на даходы і прыбытак, у чатыры разы павінен павялічыцца прыбытак Нацыянальнага банка Беларусі, больш як удвая павінны падвысіцца даходы свабодных эканамічных зонаў. На 25 мільёнаў даляраў ЗША болей плануецца атрымаць па паступленнях ад рэалізацыі дзяржаўных матэрыяльных рэзерваў і каштоўнасцяў у дачыненні да 2000 года (на 40 мільёнаў даляраў ЗША ў дачыненні да 1999 года).

У бягучым годзе чакаецца зніжэнне паступленняў ад падаткаў і збораў на аўтатранспартныя сродкі і за карыстанне аўтамабільнымі дарогамі, у параўнанні з 2000 годам - больш як утрая.

У 2001 годзе план «даходаў» па акцызах, па надзвычайнаму падатку, даходах мэтавых бюджэтных фондаў істотна не змяніўся.

## 3. Расходы бюджэту-2001 у кантэксце расходаў бюджэту 1996, 1999, 2000 гадоў

Структура выдаткаў рэспубліканскага бюджэту за апошнія шэсць гадоў істотных зменаў не зазнала. Затое змяніліся паказчыкі **(звярніце ўвагу на табліцу N2)**.

Зыходзячы з паказчыкаў табліцы N2, бачна, што выдаткі бюджэту-2001 меней за выдаткі бюджэту-1996 на мільярд сто мільёнаў даляраў ЗША, хаця ў параўнанні з выдаткамі бюджэту-2000, больш на 400 мільёнаў даляраў ЗША.

У параўнанні з бюджэтамі 1999 і 2000 гадоў, расходы бюджэту-2001 падвысіліся на дзяржаўнае кіраванне і мясцовае самакіраванне, міжнародную дзейнасць, нацыянальную абарону, навуку, адукацыю, культуру і мастацтва. Аднак абсалютны рэкорд устаноўлены па выдатках на праваахоўную дзейнасць і забеспячэнне бяспекі - на гэтую справу прадугледжана больш чым на адукацыю, культуру і мастацтва разам узятыя! Падвысіліся таксама выдаткі на правядзенне выбараў і рэферэндумаў, амаль на 80 працэнтаў падвысіўся рэзервовы фонд прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Відавочна, што ў сувязі з прэзідэнцкімі выбарамі значна павялічыліся і расходы на пралукашэнкаўскія СМІ, на іх выдаткоўваюць амаль столькі, колькі на прамысловасць, будаўніцтва і транспарт!

Расходы бюджэту-2001 знізіліся ў дачыненні да бюджэту-2000 на прамысловасць, энергетыку і будаўнічы комплекс, сельскую гаспадарку і развіццё рынкавай інфраструктуры **(гл. табліцу N2)**.

У параўнанні з бюджэтам-1999, выдаткі бюджэту-2001 на абслугоўванне дзяржаўнага доўгу зніжаныя амаль удвая.

Паказчыкі бюджэту-2001 выглядаюць значна лепей за паказчыкі бюджэту-1999 і бюджэту-2000. Гэта датычыць як расходаў, так і даходаў. Аднак, у дачыненні да бюджэту-1996, адставанне - амаль у 2,5 раза. Што ўжо і казаць пра лепшыя для Беларусі часіны.

## 4. Як невыканаем, то пераглядзім!

Належыць таксама адзначыць, што паказчыкі бюджэту ў Рэспубліцы Беларусь даволі ўмоўныя. Бо ў апошнія тры гады прэзідэнт сваім Указам удакладняе паказчыкі бюджэту за два-тры месяцы да яго канчатковага выканання. Такім чынам, дачакаемся канчатковых удакладненняў паказчыкаў бюджэту...

Хаця ад таго, якія ўдакладненні бюджэту будуць, - і ці будуць яны наогул - жыць стане наўрад ці лепей.

**Сяргей Міронаў**

**Табліца №1**

| Від даходаў | У далярах ЗША *па* бюджэту-2001 | У далярах ЗША па бюджэту-1996 | У далярах ЗША па бюджэту-1999 | У далярах ЗША па бюджэту-2000 |
|---|---|---|---|---|
| Даход рэспубліканскага бюджэту | 2 148 781 000 | 3 018 800 000 | 1 733 360 000 | 1 716 500 000 |
| Падаткі на даходы і прыбытак | 401 897 000 | 577 731 000 | 171 694 000 | 263 393 000 |
| Надзвычайны падатак | 83 691 000 | 299 946 000 | 70 701 200 | 71 003 400 |
| Акцызы | 283 822 200 | 345 464 200 | 353 424 000 | 261 776 000 |
| Падатак і зборы на аўтатранспартныя сродкі і за карыстанне аўтамабільнымі дарогамі | 1 401 600 | 3 909 710 | 1 917 000 | 5 291 400 |
| Даходы ад знешняга гандлю і знешнеэканамічных аперацыяў | 165 946 400 | 158 300 000 | 247 036 000 | 161 310 000 |
| Прыбытак Нацыянальнага банка Беларусі | 73 333 300 | 3 899 200 | 4 210 000 | 16 091 000 |
| Адміністрацыйныя зборы і плацяжы | 28 649 300 | 20 118 000 | 27 612 300 | 27 785 400 |
| Іншыя бягучыя непадатковыя даходы і абавязковыя плацяжы | 32 430 800 | (няма інфармацыі) | 39 406 200 | 43 818 000 |
| Паступленні ад рэалізацыі дзяржаўных матэрыяльных рэзерваў і каштоўнасцяў | 59 848 100 | 41 736 200 | 19 394 100 | 34 104 200 |
| Даходы свабодных эканамічных зонаў | 2 123 800 | - | 3 558 300 | 981 500 |
| Даходы дзяржаўных мэтавых бюджэтных фондаў | 356 437 200 | - | 231 856 600 | 318 968 000 |
| Іншыя віды даходаў (прыблізна) | 550 000 000 | 797 947 000 | 42 902 000 | 27 776 700 |

**Табліца №2**

| Від расходаў | У далярах ЗША па бюджэту-2001 | У далярах ЗША па бюджэту-1996 | У далярах ЗША па бюджэту-1999 | У далярах ЗША па бюджэту-2000 |
|---|---|---|---|---|
| Расходы рэспубліканскага бюджэту | 2 314 002 700 | 3 449 476 800 | 1 868 178 300 | 1 852 705 200 |
| Дзяржаўнае кіраванне і мясцовае самакіраванне | 54 000 000 | 66 830 000 | 47 429 100 | 47 530 600 |
| Міжнародная дзейнасць | 65 177 800 | 58 000 000 | 49 696 000 | 38 518 400 |
| Нацыянальная абарона | 101 475 300 | 208 605 500 | 78 563 000 | 84 441 100 |
| Праваахоўная дзейнасць і забеспячэнне бяспекі | 187 060 500 | 158 000 000 | 125 116 000 | 147 365 500 |
| Судовая ўлада | 9 156 200 | 17 680 000 | 6 703 500 | 7 045 800 |
| Прамысловасць, энергетыка і будаўнічы комплекс | 23 610 000 | 76 250 000 | 24 467 500 | 28 350 400 |
| Навука | 55 698 000 | 69 300 000 | 42 460 000 | 44 115 000 |
| Сельская гаспадарка | 33 170 200 | 80 052 000 | 58 036 000 | 35 743 700 |
| Ахова навакольнага асяроддзя і прыродных рэсурсаў | 67 549 800 | 71 360 000 | 45 345 000 | 46 906 900 |
| Транспарт, дарожная гаспадарка і сувязь | 3 029 000 | 10 184 000 | 6 758 500 | 2 775 500 |
| Развіццё рынкавай інфраструктуры | 666 600 | - | 2 181 300 | 1 086 200 |
| Жыллёва-камунальная гаспадарка | 600 600 | (няма інфармацыі) | 858 600 | 556 300 |
| Папярэджанні і ліквідацыя наступстваў надзвычайных сітуацыяў і стыхійных бедстваў | 129 358 700 | 377 160 800 | 149 729 000 | 117 689 200 |
| Адукацыя | 133 680 400 | 197 160 000 | 94 104 000 | 109 928 700 |
| Культура і мастацтва, кінематаграфія | 13 575 600 | 23 975 200 | 9 470 800 | 9 800 000 |
| Сродкі масавай інфармацыі | 22 430 700 | 58 219 300 | 15 642 600 | 16 981 600 |
| Ахова здароўя і фізічная культура | 131 580 800 | 280 483 000 | 96 675 000 | 120 000 000 |
| Сацыяльная палітыка | 180 479 000 | 202 479 600 | 159 325000 | 121 930 000 |
| Абслугоўванне дзяржаўнага доўгу | 81 845 900 | 78 295 200 | 144 420 000 | 75 365 000 |
| Рэзервовы фонд прэзідэнта РБ | 24 768 900 | 29 422 200 | 29 823 000 | 13 974 000 |
| Правядзенне выбараў і рэферэндумаў | 8 000 000 | 1 596 600 | 4 916 600 | 4 656 000 |
| Фінансавая дапамога бюджэтам іншых узроўняў | 363 446 000 | 537 130 000 | 258 025 500 | 249 133 300 |
| Выдаткі дзяржаўных мэтавых бюджэтных фондаў | 355 197 000 | - | 219 041 200 | 309 710 000 |
| Іншыя віды расходаў (прыблізна) | 29 679 300 | 750 000 000 | 190 000 000 | 200 000 000 |

# Крэветак больш няма

**Учора, 24 студзеня, беларуска-галандскае прадпрыемства «Альформа» па перапрацоўцы крэветак спыніла сваю працу.**

У выніку каля 570 жанчын пазбавіліся працы.

Галоўнай прычынай закрыцця прадпрыемства стала спыненне паставак крэветак галандскай фірмай-партнёрам «Голдфіш».

- Думаю, нашым галандскім партнёрам стала эканамічна нявыгадна пастаўляць нам сыравіну, - гаворыць дырэктар «Альформы» Аляксандр Лех. - У гэтай сувязі прадпрыемства зачыняецца, па ўсёй верагоднасці, канчаткова. Нашыя работнікі скарачаюцца ў сувязі з заканчэннем тэрміну працоўных дамоваў.

У панядзелак, за два дні да закрыцця прадпрыемства, работнікам на сустрэчы з адміністрацыяй афіцыйна паведамілі пра факт спынення вытворчасці.

- Я не хачу адыходзіць, фірма гэтая добрая, жанчын шкадавалі, выхадныя былі, зручнасці з рэжымам работы. Толькі той, хто не хацеў - не зарабляў. Зараз зіма, дзе я знайду працу?», - гаворыць Людміла, якая працавала на «Альформе» год.

На момант закрыцця СП ТАА «Альформа» 43 супрацоўніцы знаходзіліся ў дэкрэтным адпачынку. Звольненым дырэкцыя плануе выплаціць толькі заробак і кампенсацыю за адпачынак.

**Алена Сіневіч**

# Дыскатэка за металалом

**Вось такая аб'ява з'явілася некалькі дзён таму ў школе N8 горада Гродна. «У школе аб'яўляецца збор металалому, непатрэбныя металічныя рэчы прыносьце да загадчыка гаспадаркай. Ваш металалом - наша дыскатэка». Дарэчы, абяцаная дыскатэка так і не атрымалася з-за каранціну ў школе.**

**Сяргей Коўшык**



# Рабочыя плацяць двойчы

**Дырэктар саўгаса «Чарлёна» Мастоўскага раёна Анатоль Лаўчынскі за сродкі гаспадаркі збудаваў катэдж і падвёў да яго газ. Катэдж знаходзіцца непадалёку ад Луненскай сярэдняй школы. Але каб падвесці да яе газ, у саўгаснай касе не знайшлося фінансавых сродкаў. Тады дырэктар школы Віктар Чэрнік, дэпутат абласнога Савета ўзняў гэтае пытанне на апошняй сесіі. На тым усё і скончылася.**

Зараз увогуле няма ніякай перспектывы, што школа будзе газафікаваная. Таму ўзнікла ідэя звярнуцца да бацькоў, каб яны дапамаглі школе матэрыяльна: аплацілі падвод газу. Прапанова не выклікала асаблівага энтузіязму. Бо надта ўжо празмерныя выдаткі для рабочых саўгаса: будаўніцтва катэджа для дырэктара, газафікацыя школы. Людзі маюць намер газафікаваць і ўласныя дамы, а гэта паводле папярэдніх падлікаў каштуе да 1,5 тысячы даляраў.

**Міхась Карпейчык**

# Сёмы цуд сярод вакзалаў. Аднак пасажырам там няма чаго рабіць

**Напярэдадні Новага года ў Менску часова адкрыўся новы чыгуначны вакзал.**

Мадэрнісцкі фасад вакзала ўражвае. Бліскучыя высачэзныя сцены з таніраванага шкла і люстраў. На галоўным уваходзе - аўтаматычныя дзверы, вялізны галоўны хол перашчокваюць суперсучаснымі табло. Кажуць, што Менскі вакзал - сёмы ў свеце (!) па велічыні і трэці ў СНД. А самыя смелыя патрыёты сцвярджаюць, што ў нас - найбуйнейшы ў Еўропе чыгуначны вакзал.

Адкрыццё першай чаргі новага вакзала стала падзеяй у святочнай сталіцы. Цяпер знаёмыя пры сустрэчы найперш пытаюцца: «А ці быў ты на вакзале?», - і калі не, то прадпрымаюць экскурсію ў «вароты краіны III тысячагоддзя».

І праўда, цікаўных разявакаў тут цяпер больш, чым пасажыраў. Бо пасажырам, у прынцыпе, рабіць тут няма чаго. Чыгуначныя касы засталіся на старым месцы, гандлёвых шапікаў і кіёскаў на новым вакзале няма, два старыя кафетэрыі не вылучаюцца мадэрновымі дызайнерскімі вырашэннямі і смачнымі меню.

Затое народ ходзіць і задраўшы галовы ўзіраецца на высозную столь галоўнага хола і дзеля цікаўнасці наведвае сторублёвыя прыбіральні. Трэба прызнацца, прыбіральні ў новым вакзале - гэта казка. Трапіць сюды можна толькі па эскалатары, плаўна прайсці па таніраванай гранітнай падлозе ў кабінкі. Праўда, адчыненая пакуль што толькі адна секцыя. Але затое ўжо ёсць шампунь для рук у нямецкіх рукамыйных дазатарах. Іншая справа, што не ўсе госці сталіцы ведаюць прызначэнне ўсіх навамодных сантэхнічных цудаў. Таму невядома, ці надоўга іх хопіць.

Аднак якім бы грандыёзным ні быў новы вакзал, ёсць у ім шмат блізкага і дарагога нашаму народу. Напрыклад, і тут эканомяць на дзвярах - як у любой установе, са шматлікіх дзвярэй адчыненыя для публікі толькі дзве. У залу чакання і з яе ў хол вядуць два эскалатары. Нейк адзін з іх зламаўся і часова быў адключаны. На што рамонтнікі заўважылі: «А ў каго не ламаюцца новыя рэчы?» Але новыя і добрыя не ламаюцца доўгі час...

І ўсё роўна, новы вакзал, хоць сёння ён больш дэкаратыўны, чым прыкладны, гэта падзея. Тым больш, што будаваўся ён дзесяць гадоў, а першы конкурс на лепшы праект быў абвешчаны яшчэ ў 1975 годзе. Летам плануецца ўвесці другую чаргу: касы, кафэ, гандлёвыя памяшканні ды іншае.

**Ганна Макоўская**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

3-пакаёвую кватэру і гараж у г.п.Воранава. Тэл. у Гродне: 5-12-15.

Дом у Івацэвічах. Тэл. 2-22-15.

Дом шлакабетонны, абкладзены цэглай, 219 кв. метраў жылой плошчы, 109 кв. метраў для жылля, праведзены 3 фазы асвятлення, ёсць вада, каналізацыя, хлеў блочны 5х6 кв. метраў, лазня, сад, пячное ацяпленне, 25 сотак зямлі. Тэл. 75-23-47.

Масквіч-412 і Масквіч-2140 па запчастках; дакументы на Масквіч-2140. Усё танна. Тэл. (8-294) 98-2-17 (увечары).

Куртку джынсавую (п.50-52), жаночыя боты (37; 37,5), жаночае дэмісезоннае паліто (44-48), мужчынскія плашчы (46-54), мужчынскія касцюмы (48-50). Тэл. 33-79-95.

Жаночае зімовае паліто з норкавым карычневым каўняром, з новай падбіўкай (рост 164-170, памер 48-50). Кошт - 20 тысяч рублёў. Тэл. 6-69-65 (пасля 18.00).

Боты ваенныя ялавыя 42 памеру. Кошт - 10 тысяч рублёў. Тэл. 75-59-43.

Кнігі, скураны мужчынскі плашч б/у, 46 памеру, гімнастычныя эспандэры. Тэл. 44-29-34 (запрасіць Вацлава).

Два новыя плафоны для электралямпачак. Тэл. 6-69-65 (пасля 18.00).

Дзіцячую сумку кшталту «кенгуру». Тэл. 31-66-39.

Двухкватэрны дом у Берастаўіцкім раёне, ёсць сад, агарод, гаспадарчыя пабудовы. Тэл. 31-72-26.

Балконныя рамы, вагонку для абшыўкі балконаў; фаеркі, пераключальнікі да электраплітаў. Тэл. 76-50-13.

Набор мяккай мэблі: два крэслы-ложкі, канапа-ложак. Можна паасобку. Тэл. 76-19-29.

Мяккія чахлы на табурэткі (або пашыю пад заказ), дыван. Тэл. 44-39-15.

Прыватызаваны пакой, альбо мяняю на кватэру з даплатай. Тэл. 2-03-39 (запрасіць Алу).

Дачу (таварыства «Хімік»); халадзільнік «Саратаў», б/у, для дачы. Тэл. 31-23-97.

Узмацняльнік «Электроніка У-043», МП «Нота-201», калонкі, эквалайзер, друкарскую машынку, гімнастычную сценку, відэамагнітафон ВН-12, тэрмарэгулятар да акварыума. Тэл. 47-00-16.

Электракасметалагічны прыбор «Ромашка-2» для скуры твару ды інгаляцыяў пры розных захворваннях дыхальных шляхоў. Тэл. 2-04-87.

Ложак (1,5); ручную швачную машынку, касметычны інгалятар «Рамонак». Усё б/у. Тэл. 74-09-19.

## КУПЛЮ

Бульбакапалку двурадную, прычапную (польскай вытв.), карбюратар аднакамерны да ГАЗ-21. Тэл. 44-75-31.

Кнігі і часопісы па пчалярству, рамкі б/у да гадаванскіх вулляў. Тэл. у Бераставіцы: 2-14-00.

Трактар МТЗ-80 ці ЮМЗ-3 у добрым стане ў адтэрміноўку за у.а. Тэл. у Жыткавічах Гомельскай вобласці: (8-253) 7-14-31.

Настольную лямпу. Танна. Тэл. прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных; запрасіць Святлану).

Раскошную 3-пакаёвую кватэру; металічныя слупы і плот, смалу. Тэл. 33-14-27.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

## МЯНЯЮ

2-пакаёвую кватэру з тэлефонам на 1-пакаёвую кватэру старой планіроўкі з тэлефонам. Звяртацца на адрас: вуліца Кляновая, дом 31, кватэра 145.

2-пакаёвую кватэру ў Шчучыне на 2-пакаёвую ў Гродне. Тэл. у Шчучыне: 24-9-08.

2-пакаёвую кватэру на 2-ці 3-пакаёвую з даплатай. Тэл. 2-92-08.

## ПАСЛУГІ

Доктар С.Каляда: інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 да 18.00. (Ліц. N796 да 2004 года, МЗ РБ).

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц.МЗ РБ N224 да 30.12.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Сацыяльны дызайн: бізнес і палітыка; ступень майстра карэкцыі інстытута В.Вульфа халадынамікі (ЗША); прагparaміст-матэматык (ГрДзУ). Ільготы - сябрам БНФ. Тэл. 5-25-71.

Юрыдычныя паслугі (Ліц. МЮ да 26.12.2005 года). Тэл. 33-68-47 (з 9.00 да 17.00).

Абарона ў гаспадарчым судзе. (Ліц. МО N932 ад 26.12.00 года). Тэл. 33-68-47.

Кансультацыі, кантрольныя работы па філасофіі і праву. Тэл. 47-32-70.

Усё па гісторыі. Тэл. 47-35-26.

Распрацоўка праграмаў, устаноўка Windows ды інш.; рэпетытарства па камп'ютары. Тэл. 74-02-31.

Урокі класічнай ігры на гітары на аснове сціслага вывучэння элементарнай тэорыі музыкі і музычнай гармоніі. Тэл. 72-16-55.

Камп'ютарны набор, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Рэпетытарства па матэматыцы, школьны курс. Тэл. 72-22-77.

Рэпетытарства па ангельскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.

Набор тэкстаў, курсавых работаў на камп'ютары. Раздрукоўка. Тэл. 44-70-03 (запрасіць Андрэя).

Польская, балгарская мовы. Тэл. 2-85-77, 33-09-39.

Ангельская мова: афармленне дакументацыі, анкетаў, пераклады. Тэл. 31-15-83 (запрасіць Аляксандра).

Ангельская мова: рэпетытарства, пераклады. Тэл. 274-46-82, 211-00-00, альбо 9-39-87 (запрасіць Вольгу).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліцэнзія N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Рэпетытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.

Дапамагу ў выкананні задачаў, кантрольных, курсавых і дыпломных работаў па любых будаўнічых канструкцыях, супраціўленні матэрыялаў, тэарэтычнай тэхнічнай ды будаўнічай механіцы. Тэл. 72-16-55.

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Усё па беларускай, ангельскай і лацінскай мовах. Тэл. 33-21-83.

Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Рэпетытарства па хіміі, біялогіі. Тэл. 78-16-81.

Набор тэкстаў на камп'ютары, сканаванне, раздрукоўка на матрычным прынтары. Тэл. 76-55-16.

Ангельская мова: пераклады і кантрольныя работы. Хутка і якасна. Тэл. 31-15-83.

Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнні відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліцэнзія МК N613 да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.

Рамонт пыласосаў усіх тыпаў з гарантыяй. Выраб шматразовых фільтраў да імпартных пыласосаў (Ліц. N02645 да 2004 года). Тэл. для даведак: 6-45-74.

Гульнёвая прыстаўка SONY PLAY STATION напракат, дастаўка. Тэл. 226-13. Ліц. ББС N05971 да 2005 года.



Самага цудоўнага ў свеце сына *Уладзіміра* шчыра віншую з 12-годдзем! Жадаю табе, мой слаўны, быць здаровенькім, ніколі нікога не крыўдзіць, жыць мудра, спакойна, без мітусні і расчараванняў! Жадаю табе, мой любы, удачы, каб ніколі не ведаў ты гора і каб шчасця было - мора, каб людзі цябе паважалі і ў госці часцей запрашалі! Няхай у тваіх прыгожых вачанятах заўсёды мігаціць агеньчык добрага настрою, гарэзлівасці, цікаўнасці і бадзёрасці! Будзь спагадлівым, справядлівым, ніколі не сумуй! Хай у тваім годзе Змяі ўсё здзейсніцца, што было табою задумана! Давай ніколі не сварыцца, а часцей усміхацца адзін аднаму! Будзь такім, каб я магла ганарыцца табой, сынуля! Хай не будзе ў тваім сардэчку маркоты і злосці, няхай абмінаюць цябе нягоды і беды! Няхай тваімі спадарожнікамі будуць шчасце і добразычлівыя людзі! Не губляй веры ў сябе, будзь мужным! Хай удалай і вернай будзе дарога, якой бы ты ні пайшоў!

**Мама**

## РОЗНАЕ

Здыму 1-пакаёвую кватэру з мэбляй. Тэл. 2-48-79.

Здыму пакой або 1-пакаёвую кватэру. Тэл. 47-32-06.

Здыму 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам, можна без мэблі. Тэл. 31-23-27.

Патрабуецца сталяр-станочнік. Тэл. 76-50-13.

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41. У любы зручны для вас час.

Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-70.

Прапішу дваіх. Тэл. 6-83-19.

Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі, па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Паважаныя гарадзенцы! Любая ваша дапамога, міласэрнасць і проста добрыя сэрцы патрэбныя Гарадзенскай арганізацыі аховы жывёлаў. Тэл. 44-92-79, 72-15-05.

Шукаю працу рабочага альбо вучня на прадпрыемствах Гродна. Тэл. 44-29-34 (запрасіць Вацлава).

Усе сапраўдныя беларусы выказваюць падзяку Зянону Пазьняку за тое, што ён клапоціцца пра «бел-чырвона-белую» будучыню беларускай нацыі.

Новы выбар на «Выставе аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі», што знаходзіцца ў Гродне па вуліцы К.Маркса,11 (другі паверх). Час працы: панядзелак і серада з 17.00 да 20.00 гадзін.

Замаўляйце і чытайце «Голас Краю» - газету беларускіх нацыяналістаў. Звяртайцеся на адрас: 230003, горад Гродна, а/с 100.

Хай Беларусь жыве ў вяках, дзядоў маіх лунае сцяг, зара ў небе над маёй зямлёй, дзе абароніць гонар людзьмі звацца неўміручы Род Пагоні!

## ЗНАЁМСТВЫ

Інтэлігентная, стройная бландзінка (40/164/60) пазнаёміцца з цікавым ва ўсіх адносінах мужчынам для сустрэчаў. Пісаць на адрас: г.Гродна, 230024, да запатрабавання п/п КН 0196009.

Калі Вам надакучыла адзінота, ці не складваецца сямейнае жыццё... Мужчына 37 гадоў чакае ад Вас лістоў на адрас: г.Гродна-25, 230025, Галоўпаштамт, да запатрабавання, п/д N028327.

Мужчына, 33/170, пазнаёміцца з жанчынай для сур'ёзных адносінаў. Пісаць: 230029, г.Гродна-29, да запатрабавання п/д НБ-2455415.

Надзейны, дабрадушны, пяшчотны мужчына (за 40 гадоў) пазнаёміцца з нехударлявай, невысокага росту жанчынай ці дзяўчынай для дзённых сустрэчаў з выездам на прыроду. Паштовае аддзяленне сувязі N9, а/с 116.

## ВІНШАВАННІ

Віншую з 500-м! Жадаю дажыць да 10-тысячнага ў Вялікай Незалежнай Беларусі!

**Андрэй Мялешка, ваш чытач, старшыня Гарадзенскага Маладога Фронту**

## СПАЧУВАННІ

З прычыны заўчаснай смерці нашага сталага аўтара і чытача Зыкфрыда Браніслававіча Кузьмы выказваем шчырыя спачуванні яго родным і сваякам.

**Калектыў рэдакцыі газеты ПАГОНЯ**

# Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». **Новы замак.** Экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў». **Круглая** зала. Выстава «Вобразы далёкія і блізкія», прысвечаная 80-годдзю музея. Сенатарская зала. Экспазіцыя «Новыя набыткі»: жывапіс, графіка, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва сучасных беларускіх мастакоў.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Выстава польскай графікі.

**Галерэя «Тызенгаўз» (плошча Тызенгаўза,4).** Выстава Дзмітрыя Іваноўскага: пейзажы і нацюрморты.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вуліца Ажэшкі,39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Тэатр лялек.** 25 студзеня ў 10.00 і 12.30 - «Снежная каралева»; 27 студзеня ў 12.00 - «Пагуляем з Вінні-Пухам»; 28 студзеня ў 12.00 - «Кот ў ботах».

**Гарадскі Дом афіцэраў.** 2 лютага - канцэртная праграма Уладзіміра Ухцінскага. Пачатак у 19.00.

**Лядовы палац спорту.** 3 лютага ў 18.00 - канцэрт Найка Барзова. 5 лютага ў 19.00 - канцэртная праграма Валерыі.

**Моладзевыя дыскатэкі:**

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00, працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпціз-шоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**ПАГОНЯ** купон прыватнай бясплатнай аб'явы

| 4 | Імя і прозвішча ____________ |
|---|---|
| | ____________ |
| Адрас (тэлефон) | ____________ |
| | ____________ |
| Рубрыка | ____________ |
| Тэкст | ____________ |
| | ____________ |
| | ____________ |

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

**Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11**

У кіёсках «Белсаюздруку» з'явіўся ў продажы студзеньскі нумар часопіса «Кур'ер», які прыцягвае ўвагу не толькі эфектнай каляровай вокладкай, але і цікавым зместам. У нумары публікуюцца артыкулы Сямёна Букчына, Юрыя Дракахруста, Канстанціна Скуратовіча, Віталя Цыганкова ды іншых вядомых журналістаў. Цікавы палітычны партрэт Міхаіла Мясніковіча напісаў Аляксандр Фядута. Пад рубрыкай «Гісторыя» друкуецца матэрыял пра беларускіх кантрабандыстаў 1920-х гадоў. Яшчэ адна вартасць часопіса - вялікая колькасць цікавых фотаздымкаў. Пры гэтым каштуе «Кур'ер» нядорага - 300 рублёў.

**І.Германчук**



ПЯРЭСТЫ КУТ

# Гарбата не толькі для дваіх



Першага і другога лютага артысты Гарадзенскага абласнога тэатра лялек пакажуць сваю новую работу для дарослых - спектакль-кабарэ «Гарбата на дваіх».

Пастаноўка складаецца з дзесяці нумароў, прысвечаных выбітным постацям сусветнай культуры XX стагоддзя. Перад вачыма гледачоў паўстануць Ганна Паўлава, Аляксандр Вярцінскі, Франц Кафка ды іншыя класікі. Мініяцюры з забаўнымі лялькамі (мастак Ларыса Мікіна) выдатна раскрываюць выяўленчыя магчымасці сучаснага лялечнага тэатра. У спектаклі граюць два акторы - Алег Жугжда (ён жа аўтар і рэжысёр) і Ларыса Мікуліч. У «Гарбаце на дваіх» выкарыстаны папулярныя класічныя і эстрадныя мелодыі.

Варта адзначыць, што спектакль-кабарэ быў лаўрэатам тэатральнага фестывалю ў Плоўдзіве (Балгарыя), а таксама паказваўся ў Расеі і на Украіне.

Акрамя «Гарбаты на дваіх» 9 лютага ў тэатры лялек дарослыя могуць паглядзець канцэртную праграму «Увесь свет - тэатр!», а 16 лютага - вадэвіль «Як здароўе?», пастаўлены паводле «Пісаравых імянінаў» Уладзіслава Галубка.

**Ігар Гандлеўскі**

**На здымку: «Гарбатная прыгажуня» са спектакля не мае праблемаў**

1. Воскападобнае духмянае рэчыва. 2. Род шматгадовых травяністых раслінаў. 3. Народны духавы музычны інструмент, падобны на дуду. 4. Перавязачная нітка пры аперацыі. 5. Метад навучання пры дапамозе наводных пытанняў, а таксама теорыя такой методыкі. 6. Ашуканства з мэтай нажывы; шальмоўства, жульніцтва. 7. Лодка. 8. Упрыгожанне ў выглядзе арнаменту ці малюнка ў пачатку кнігі, раздзела або напрыканцы іх. 9. Агульны знешні выгляд мясцовасці. 10. Гліняная пасудзіна, якая выкарыстоўвалася ў ювелірнай справе для разліўкі расплаўленых каляровых металаў. 11. Назва манеты квадратнай формы, квадратная металічная пласціна з адціснутымі на ёй выявамі звычайна ў традыцыйнай кампаноўцы круглай манеты.

**Адказы на чайнворд, змешчаны ў N3 (499)**

1. Вевярэск. 2. Корд. 3. Друя. 4. Яцвягі. 5. Істопка. 6. Адбойнік. 7. Кабрыялет. 8. Тапаніміка. 9. Абдукцыя.

ДЗІЦЯЧАЕ АДДЗЯЛЕННЕ

# Каго прынёс бусел...

**З гэтага нумара «ПАГОНЯ пачынае друкаваць здымкі дзяцей, якія нарадзіліся ў Гарадзенскім радзільным доме напярэдадні выхаду нумара газеты. Паглядзіце! Можа, хтосьці з іх атрымае прэмію «Оскар», нехта пераможа на ралі «Парыж - Дакар», а хтосьці стане ўлюбёным бацькам і паважаным грамадзянінам краіны.**

**Віншуем бацькоў з нараджэннем дзяцей! Жадаем, каб вашыя немаўляткі не сыходзілі з нашых старонак!**



Дачка сям'і Раманчук. Вага 4.250 кг. Рост 55 см



Двайняты Святланы Квяткоўскай. Нарадзіліся 17 студзеня. Злева - хлопчык, вага 3.050 кг, рост 50 см. Справа - дзяўчынка, вага 3.150 кг, рост 51 см



Сын Таццяны і Рыгора Богданаў. Нарадзіўся 18 студзеня. Вага 3.250 кг. Рост 52 см



Сын Марыны Сазон. Нарадзіўся 16 студзеня. Вага 3.500 кг. Рост 54 см



Сын сям'і Салаўёвых. Нарадзіўся 17 студзеня. Вага 3.450 кг. Рост 51 см



Дачка сям'і Панарыных. Нарадзілася 16 студзеня. Вага 4.800 кг. Рост 58 см



Дачка сям'і Агеевых. Нарадзілася 17 студзеня. Вага 3.450 кг. Рост 53 см



Дачка сям'і Шчэрба. Нарадзілася 19 студзеня. Вага 3.850 кг. Рост 54 см



Сын сям'і Варган. Нарадзіўся 18 студзеня. Вага 3.850 кг. Рост 54 см

# Дзевяць плюс адзін

**Першыя дзевяць пытанняў з'яўляюцца своеасаблівым тэстам на ўзровень вашай эрудыцыі. Правільныя адказы на іх змешчаныя ніжэй. На дзесятае пытанне конкурсу трэба адказаць пісьмова на адрас рэдакцыі (на паштоўках ці канвертах пазначыць - «9+1»). Сярод лістоў ды паштовак з правільнымі адказамі будзе праведзена лёсаванне, якое і вызначыць, хто ж стане пераможцам і атрымае прыз ад рэдакцыі нашай газеты.**

**1. Стварэнне адной серыі «X-files» каштуе...**

а) 500 тысяч даляраў;

б) адзін мільён даляраў;

в) 1 300 000 даляраў.

**2. Самы старажытны ў свеце спартовы інвентар для боўлінга, шары ды кеглі, быў знойдзены ў...**

а) старажытнаегіпецкай усыпальні;

б) скіфскім кургане;

в) турэцкай скальнай магіле.

**3. Беларусы лічылі, што дзіцяці (пакуль яно не пачало размаўляць), каб не было і надалей «нема, як рыбіна», нельга прапаноўваць не толькі рыбу, але і...**

а) марскую капусту; б) юшку; в) заечыну.

**4. У 1974 годзе ў Даніі на працягу 20-ці хвілінаў з неба сыпаліся...**

а) жывыя ракі; б) залатыя манеты; в) паўжывыя жабы.

**5. Сыны Сяргея Бубкі, Віталь і Сяргей, у адрозненне ад свайго знакамітага бацькі, захапляюцца не лёгкай атлетыкай, а...**

а) хакеем; б) тэнісам; в) футболам.

**6. Першы крымскі хан Азі прыйшоў з...**

а) Залатой Арды;

б) Астрахані;

в) Летувы.

**7. Спецыялісты, якія займаюцца акультнымі навукамі, звязваюць гэта з дысбалансам сямі энергетычных цэнтраў чалавека. Што, гэта?**

а) самаўзгаранне;

б) здранцвенне;

в) апантанасць.

**8. Якую назву меў саюз гарадоў у сярэдневеччы?**

а) гільдзія;

б) вольныя муляры;

в) ганза.

**9. Глен Уілбур Валіва стаў мільянерам дзякуючы...**

а) сваім вучням;

б) вытворчасці шакаладных бісквітаў;

в) даследаванням космасу.

**Правільныя адказы:**

1в, 2а, 3б, 4а, 5б, 6в, 7а, 8в, 9б

Дзевяць правільных адказаў - выдатна, **7-8** - вельмі добра, **5-6** - добра, **3-4** - здавальняюча, менш як **3** - у Вас ёсць над чым папрацаваць.

**10. Шматлікія звычаі, карані якіх - у далёкім язычніцкім мінулым, зараз называюць забабонамі. Скажам, падчас уваходзінаў цягнуць з сабою ката, каб той першы ўвайшоў у хату. А вось у Балгарыі ды Сербіі, калі ўзводзілі вежы і цытадэлі... Паспрабуйце працягнуць выказванне і патлумачыць, наконт якіх забабонаў гаворка.**

Адказ на трынаццатае пытанне папярэдняга конкурсу «12+1» (гл. ПАГОНЮ N2 ад 11 студзеня г.г.) павінен быў гучаць наступным чынам. Рымскі імператар даведаўся, што птушку Фенікс злавіць немагчыма. Тады ён загадаў прыгатаваць на абед мяса райскай птушкі. Але і паснедаць імператару не давялося, забілі яго...

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Вы будзеце мець неблагія шанцы на ўсю моц выявіць свае здольнасці ды таленты і тым самым умацаваць аўтарытэт сярод калег.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Не зважайце на зайздроснікаў, папросту радуйцеся сваім удачам і поспехам. Падтрымку знойдзеце сярод сваякоў.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Няма чаго здзіўляцца перспектыўным прапановам наконт новай працы. Без сумневу, Вы заслугоўваеце таго, каб жыць лепей.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Напрыканцы тыдня знайдзіце час для сваіх захапленняў - апрача адпачынку, гэта дадасць Вам упэўненасці ва ўласных сілах.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Паспрабуйце больш цярпліва ставіцца да ўчынкаў тых, хто побач з Вамі. Уважліва сачыце за сваімі словамі ды пазбягайце канфліктаў.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Гэты тыдзень, спрыяльны па шматлікіх параметрах, зможа сапсаваць толькі Ваша легкадумнасць. Дамагайцеся паразумення з усімі.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Варта ўзяць ініцыятыву ў свае рукі - Вы маеце рэальныя шанцы выправіць свае памылкі і ліквідаваць шматлікія праблемы.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Перашкодаў для самарэалізацыі ў Вас не будзе аніякіх. Галоўнае - захоўвць спакой і не губляць упэўненасці ў сабе.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Зразумела, Вам давядзецца пазмагацца за свае інтарэсы, аднак справа таго каштуе. Непрыемнасці могуць быць звязаны толькі з лянотаю і песімізмам.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Вы адчуеце значную стабілізацыю ў справах: палепшыцца фінансавае становішча. У асабістых адносінах з'явяцца новыя прыемныя моманты.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Выяўляйце ініцыятыву ў прафесійнай сферы - вынікі абяцаюць быць надзвычай добрымі.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Старайцеся адэкватна ставіцца да падзеяў, што адбываюцца вакол Вас. Спрыяльны для дзелавых кантактаў дзень - чацвер.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"
Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.
Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня». Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 24.01.2001 г. Замова 334 Наклад 7 651
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.
Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч
Камп'ютарны набор: Ірына Салей, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей